Цана асобнага нумару 17 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 12. Вільня, Серада, 9-га ліпня 1924 г. Год I.

## Усходнія граніцы.

Былы кіраўнік амэрыканскага прэсбюро і супрацоўнік прэз. Вільсона на міравой канфэрэнцыі ў Парыжу, R. St. Backer, напісаў вельмі цікаўную кніжку пад загалоўкам: *Вудро Вільсон. Кшталтаваньне лёсу сьвету*. Кніжка гэтая—нязвычайна цікаўна тым, што выкрывае ўсю крывадушнасьць, усю ілжывасьць эўрапэйскіх палітыкаў, якія сваe захватніцкія імкненьні прыкрывалі шумлівымі славамі аб „вызваленьні малых народаў“ і г. п.

Есьць тамака і дакумэнты, якія маюць вялізэзную вагу для польска-расейскіх адносін і тым самым датыкаюць Беларусі: у іх гаворыцца аб заходніх межах Расейскае дзяржавы.

На асаблівую ўвагу заслугуе тэлеграма расейскага пасла ў Парыжу да міністра заграничных спраў у Пецярбурзе, пасланая ў марцу месяцу 1917 году. Вось яе зьмест:*).

„Урад Францускае Рэспублікі, каб падцьвярдзіць важнасьць трактатаў, зробленых з Расейскім Урадам у 1915 годзе ў справе разьвязаньня пасьля сканчэньня вайны пытаньня аб Канстантынопалі і пралівах згодна з жаданьнямі Расеі, і — з другога боку—жадаючы запэўніць свайму саюзьніку з мілітарнага і прамысловага пагдядаў усе гаранты, пажаданыя дзеля бясьпечнасьці і эканамічнага разьвіцьця Імпэрыі, — *прызнае за Расеяй поўную свабоду ў устанаўленьні яе заходніх граніц*“.

Гэта было ў 1917 годзе. Дадамо ад сябе мала знаны факт, які (паводле слоў аднаго з сябраў Беларускае Дэлегацыі на Міравую Канфэрэнцыю) меў месца цераз два гады з лішкам — у пачатку чэрвеня 1919 году ў Парыжу.

Беларуская Дэлегацыя на Міравую Канфэрэнцыю дачулася, што Камісія Канфэрэнцыі да ўсходніх спраў разглядала пытаньне аб будучых межах Польшчы на Усходзе. З прычыны таго, што прадстаўнікоў беларусаў Камісія абяцалася запрасіць на сваё паседжаньне, каб выслухаць іх дамаганьні ў гэтай справе, ды гэтага не зрабіла,— галава Беларускае Дэлегацыі і адзін ці два сябры яе паехалі ў францускае Міністэрства Замежных Спраў, каб высьвяціць справу. Вось-жа сябра гэнае Камісіі, чынны працаўнік на Канфэрэнцыі, п. дэ-Сэліньі, растлумачыў ім, што іх не запрасілі зусім сьвядома, а гэта на тэй падставе, што разважалася справа даўно прадугледжаная: *за Польшчай прызнаны толькі тыя тры беларускія паветы: Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі, якія былі абяцаны палякам яшчэ царскім урадам. „Ні пядзі зямлі далей на ўсход палякі не дастануць, — будзьце, панове, спакойныя*!“ — сказаў прадстаўнік францускага ўраду.

Заява пана дэ-Сэліньі як ня трэба лепш дапаўняе прыведзеную Бэкерам тэлеграму і зьмест француска-расейскае умовы, у якой ад імя Францыі выступаў сягоньняшні прэзыдэнт Францускае Рэспублікі, п. Думэрг. А п. Студніцкі ў газэце „Slowo“ расшыфровывае значэньне гэнае ўмовы, кажучы, што яна прадстаўляе „запярэчаньне польскае дзяржаўнасьці, францускае desinteressement у польскай справе, аддачу Расеі гэтае справы бяз ніякіх засьцярог“.

Чаму-ж пазьней Францыя прызнала сягоньняшнія усходнія межы Польшчы, абняўшыя вялізарны беларускі абшар?

Адказ на гэта дужа лёгка знайсьці. Прыпомнім, што ў марцы 1917 году вернасьць Расеі яе саюзьнікам не выклікала ні ў кога ніякіх сумляваньняў. Іменна ў тым часе падгатаўлялася знамянітае Брусілаўскае наступленьне, ад якога францускі генаральны штаб вельмі многа спадзяваўся.—Ізноў-жа ў чэрвені 1919 году францускі ўрад быў сьвята пераканаы, што адмірал Колчак пераможа бальшавікоў,—і хутка пасьля прыведзенае заявы п. дэ-Сэліньі Францыя афіцыяльна прызнала ўрад Колчака, як „усерасейскі“, проці чаго запратэставалі ўсе нацыянальныя дэлегацыі (беларуская, украінская, грузінская, азэрбайджанская, паўночна-каўкаская — у аднэй супольнай ноце і літоўская—у асобнай заяве).—Калі-ж урад Колчака, а за ім і Денікіна і ўсе другія былі разгромлены чырвонымі войскамі, калі высьвятлілася, што радавая ўлада ўмацавалася надоўга і не выяўляе ніякага імкненьня да аднаўленьня расейска-францускай дружбы, абсалютна немагчымай і непрыемлемай ў тым часе і для аднае і для другое стараны,—тады Францыя пастанавіла абаперціся на Польшчу і, дзеля ўзмацаваньня яе, прызнала за ёй заходня-беларускія і заходня-украінскія землі.

Але жыцьцё не стаіць на месцы, а адносіны між дзяржавамі і іх палітыка часта зьмяняюцца, імкнучыся заўсёда да ўтварэньня *найбольш стойкае палітычнае сыстэмы*. Для левага ўраду Францыі, для яе прэзыдэнта, які, пэўне, не забыўся аб сваіх умовах з Расеяй з 1915 і 1917 гадоў, Польшча ўжо не прадстаўляе такой апоры, якую прадстаўляла для ўраду п. Пуанкарэ: „левая“ Францыя намячае новыя палітычныя шляхі ў адносінах да Нямеччыны, і ў гэтых мяркаваньнях Польшча астаецца за бортам. Затое ўрад п. Эрыо працягівае цераз польскія галовы руку Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, праяктуе ўзнавіць француска-расейскую дружбу. І зусім натуральна, што справа усходніх граніц Польшчы лёгка можа быць ізноў паднята на міжнародным форуме.

Тут гожа адзначыць, што ў мамэнт прызнаньня Радай Паслоў Францыі, Англіі, Бэльгіі і Італіі усходніх граніц Польшчы „Антанта“ яшчэ фактычна істнавала (цяпер аб ёй толькі памяць істнуе!), а з другога боку—Беларусь, якая была парэзана тады на кускі, не прадстаўляла такой сілы ў Р. С. Ф. С. Р., якую прадстаўляе цяпер, як паўнапраўны сябра С. С. Р. Р. Да таго-ж польская палітыка ў адносінах да „нацыянальных меншасьцяў“ наагул, а да беларусаў, што пад Польшчай, асабліва—сама-ж высунула на міжнароднае форум беларускае пытаньне, зацікавіла ім увесь культурны сьвет, прыдбала нам шчырых прыяцеляў і заступнікаў сярод найлепшых прадстаўнікоў францускага грамадзянства з сучасным галавой францускага ўраду Эрыо і старшынёй парляманту Пэнлевэ на чале.

Як бачым, палажэньне Польшчы ў справе яе усходніх граніц робіцца вельмі цяжкім і няпэўным. І не дарма п. Грабскі штось там фабрыкуе, каб „задзівіць увесь сьвет“ сваей... толерантнасьцяй у адносінах да беларусаў і украінцаў!

Аднак, трудна спадзявацца, каб гэтыя патугі запраўды здалелі „выратаваць палажэньне“: разьвязка яго, бадай, будзе не ў Варшаве, а мо' — ў Парыжу і ў Маскве?!

*) Прыводзім яго паводле цытаты з кнігі Бэкера, зьмешчанае у віленскай часопісі „Slowo“.

**Просімо ўсіх нашых паважаных грамадзян падпішчыкаў, якія неакуратна атрымліваюць газэту, рабіць спачатку справкі на мясцовай пошці, а тады з гатовымі ад яе адказамі зварачвацца да нас.**

**Адміністрацыя.**

## Паліцэйскія банды на Крэсах.

Толькі што ўсе польскія газэты складалі „hold“ нязвычайнай „спраўнасьці“ крэсавай паліцыі, якая „заарыштавала адразу цэлую банду“ ў Стаўпецкім павеце,—ажно вось з Вялейскага павету йдуць весткі, што сама польская паліцыя арганізавала тут цэлую спраўную банду, якая рабіла напады і рабавала край па абодва бакі граніцы... І вось уся гэтая банда, апрача толькі, як заўсёды бывае, галоўных яе правадыроў і кіраўнікоў, папалася ў рукі сваіх калегаў, закавана ў кайданы і прывезена ў Вільню.

„Dzien. Wil.“ падае гэткія цікавыя весткі аб гэтым „запраўдным скандале ў шляхотнай польскай крэсавай сям'і“.

Разбойніцкую банду, як аказалася, арганізавалі паліцыянты прыгранічнага адрэзку Радашковічы — Хаценчыцы з „аспірантам“ і „пшодоўнікам“ на чале. Гэтая паліцэйска-бандыцкая шайка, як піша газэта, працавала ў змове з бальшавіцкімі арганізацыямі. Доўга ўлада не магла зразумець, хто памагаў бальшавіцкім атрадам пераходзіць граніцу, рабаваць польскія двары і мястэчкі, ды—спакойна ўцякаць дамоў. Колькі ніўчым нявінных сялян былі пасаджаны ў вастрогі, біты і катаваны па падазрэньню ў „змове з бандытамі“!! Колькі сам „Dzien. Wil.“ зрабіў даносаў на „беларускіх агітатараў“! Але вось „бліжэйшая абсэрвацыя“ паказала, дзе была галоўная прычына зла.

Каб схапіць усю банду, вышэйшая ўлада спрытна даручыла найбольш падазронаму асьпіранту Котарбіньскаму, заступніку камэнданта ўсей гэтай „гранічнай кампаніі“, арганізаваць адумысную групу дзеля пагоні за закардоннымі атрадамі. Спадзяваліся, што Котарбіньскі набярэ да сваей групы якраз усіх сваіх даверанных прыяцеляў-бандытаў. Так і сталася. Котарбіньскі вельмі ахвотна ўзяўся за арганізацыю гэткай „ударнай групы“, калі-ж яна ўся сабралася ў Вялейку, дык па загаду ўлады паліцыя і войска акружылі гэты „пасьціговы аддзел“ асьпір. Котарбіньскага, разброілі і закавалі ўсю групу. Так папаліся ў паліцэйскую мышалоўку ўсе паліцэйскія бандыты — ў ліку больш 30 чалавек!..

П. Котарбіньскі—з „Малапольскі“, і амаль ня ўсе яго таварышы, як прызнае сам рэдактар „Dzien. Wileńsk.“,—„элемэнт, прысланы на Крэсы з іншых паліцэйскіх акругоў, дзе яны за розныя службовыя праступленьні былі аддаиы пад дысцыплінарны суд“.

Вось гэтае апошняе прызнаньне пасьля такога яскравага факту аканчальна сцьвярджае тое, што ўсе добра ведалі, а мы заўсёды пісалі раней: паліцыю на „Крэсах“ вярбуюць з выгнаных з каранной Польшчы праступнікаў, каб гэтыя крымінальныя паны новымі праступленьнямі над беларусамі змылі з сябе свае старыя грахі перад угалоўным законам — у Польшчы. Паўторым за п. Ковнацкім ' можа трохі ў шырэйшым разуменьні, што галоўныя праступнікі, якія кіравалі і будуць кіраваць паліцэйскімі бандамі на Крэсах, як „маральныя вінавайцы пануючых на „Крэсах“ адносінаў“—так і асталіся на волі і бязкарнымі...

## Урадовыя праекты аб карыстаньні роднай мовай.

(Глядзі № 11 „Сын Беларуса“).

Бязумоўна, найгоршым, бо найменш выразным і даючым найбольш самаволі адміністрацыі, зьяўляецца гэты грабска-тугуттаўскі неданосак у адносінах да школы.

Вось што ён дае беларусу.

I арт. кажа, што прыватныя школы для дзяцей беларусаў могуць быць закладаны на тых варунках, як і школы польскія, але на беларускіх абшарах гэтыя школы павінны дадпарадкавацца наступным правілам.

Па тэй агульнай думцы, што „школьны лад— адзіны для ўсей дзяржавы“, „аснаўным тыпам школы“ і на нашых беларускіх землях п. п. Грабскі і Тугутт лічуць „супольную школу, якая ўзгадоўвывае на добрых польскіх грамадзян дзяцей, як польскай, таксама і няпольскай нацыянальнасьці—у ўзаемнай пашане да іх нацыянальных асаблівасьцяў“... (арт. I).

І вось, „па прынцыпу годжаньня і злучаньня—для мірнага сужыцьця насяленьня нацыянальна мешаных зямель“, п. п. Ст. Грабскі і Тугутт разам з п. п. Гюбнэрам і Міклашэўскім уводзяць на нашых „Крэсах“ тып мешанай — польска-беларускай школы.

Ці можна выдумаць штось больш крывадушнае, агідна-фальшывае, як гэтае „годжаньне і злучаньне у ўзаемным шацунку“ палякоў і беларусоў — у школе п. Гонсёроўскага, пры істнуючых варунках гвалту і зьдзеку на землях Заходняе Беларусі?!

Ці-ж для нас ня ясна, што гэткая „злучаная“ мешаная школа—найлепшы шлях для палянізацыі, а ў лепшым выпадку—вогнішча сталых і бесканечных канфліктаў, скандалаў, гісторыяў, якія п.п. Обсты ці тыя-ж самыя вучыцялі—палянізатары, што захочуць „рабіць кар'еру“, будуць выкарыстоўваць самым агідным спосабам?!

---

Але праект дапускае і асобную чыста-беларускую школу.

„У дзяржаўных школах тых гмінаў, якія маюць ня менш чверці насяленьня беларускага, на падставе ўрадова сцьверджанага (?!) жаданьня бацькоў 40 дзяцей-беларусаў, апошнім будзе забясьпечана навучаньне ў матчынай мове“.—У гэтым артыкуле ёсьць вельмі мала, апроч агульнай „дэкларацыі“, якую адміністрацыя можа тлумачыць вельмі свабодна...

Але, калі ў даным школьным „абводзе“

(ўчастку) няма 40 дзяцей, якіх бацькі заявілі аб жаданьні навукі па беларуску (а ёсьць, напрыклад, толькі... — 39!), дык тады выкладовай мовай ужо канешна павінна быць мова польская.

Мешаны тып школа атрымлівае тады, калі ў даным „абводзе", апрача 40 дзяцей, жадаючых навукі па беларуску, жыве яшчэ ня менш 25 дзяцей, якіх бацькі (ці яны палякі, ці беларусы, ці хто іншыя—ўсё роўна) заявілі жаданьне вучыцца па польску; тады гэтая школа робіцца мешанай, і выклады ў ёй адбываюцца на дзьвюх мовах: беларускай для 40 вучняў і—польскай для 25...

Лёгка сабе прадставіць, якая „згода" і „пашана" будуць панаваць сярод вучняў, вучыцялёў і бацькоў у гэткай школе, як і ўва ўсім школьным абводзе!.. — Бо—каму-ж ня ясна, як будуць зьбірацца подпісы гэтых 25 бацькоў, якія „жадаюць" навукі па польску?! Каму не зразумела тая розьніца, якую завядуць улады—школьныя, паліцэйскія і ўсякія другія — адносна да бацькоў і дзяцей—з абедзьвюх групаў?!.

Ня кажам ужо аб дзіўным, але запраўды многазначным падзеле напалову школьнага дня паміж абедзьвюма групамі—40 і 25 дзяцей... Ці-ж запраўды ўрадовы праект хоча відавочна паказаць, што і на дзеле для дасяжэньня тых жа вынікаў трэба для навучаньня ў чужой мове ў два разы больш часу, як на роднай мове дзіцяці?!.

Але і гэта — ня ўсё, бо імкненьне да „лучнасьці" і „згоды" загадывае „па меры магчымасьці злучаць у адну дзьвюхмоўную школу істнуючыя ў даным абводзе асобныя школы чыста беларускія і польскія"... (арт. 3).

---

У новазакладаных вучыцельскіх сэмінарыях павінна быць навучаньне на абедзьвюх мовах — беларускай і польскай.

Але пакуль яшчэ адчыняцца новыя, да істнуючых цяпер польскіх павінна быць уведзена выкладаньне беларускай мовы — „ў разьмеры, які-б выстарчаў (?!) для вядзеньня, па сканчэньні, беларускай пачаткавай школы" (!).

На жаданьне бацькоў 150 вучняў польскіх гімназіяў аднаго павету ці вялікага места для іх будзе адчынена гімназія з дзьвюма мовамі навучаньня: польскай і беларускай.

І таксама, калі ў такім месьце ёсьць асобныя беларускія і польскія гімназіі, дык яны павінны быць, па меры магчымасьці, злучаны ў адну—„дзьвюхмоўную"—польска-беларускую.

У дзяржаўных прафэсіянальных школах, па трэбаваньню бацькоў 40 вучняў, павінна быць уведзена паралельна з польскім выкладам і навука на беларускай мове (арт. 8).

Тыя самыя правілы адносяцца і да ўсіх школаў, якія адчыняюць самаўрадавыя ўстановы на кошт падаткаў, зьбіраных з усяго насяленьня... (арт. 9).

---

Вось што дае гэты польскі ўстаў для беларускай нацыянальнай школы. Калі два першыя ўставы запраўды штось яшчэ кідаюць беларусу ў імя зразумелай, хаця і лішне позна, ўласнай патрэбы польскага гаспадарства, дык гэты галоўны законапраект аб школах, датычучы галоўнага нашага нацыянальнага скарбу — нашых дзяцей,— прадстаўляе ня што іншае, як чысты і агідны зьдзек над чыста культурнымі нашымі ідэаламі, зьдзек над нашымі дзяцьмі,—грубое гвалтаваньне нашага цьвёрдага і законнага імкненьня да поўнай культурна-нацыянальнай самастойнасьці, гарантаванай нам нават... польскай Канстытуцыяй!

Ад польскага ўраду мы дамагаемся толькі таго, каб ён не перашкаджаў нам працаваць на нашай беларускай зямлі, сярод нашага беларускага народу, самастойна тварыць нашу нацыянальную культуру за тыя грошы, якія зьбіраюцца з нашага-ж працоўнага народу. Новы ўстаў аб беларускай навуцы ў школах ад гэтага якраз вельмі далёкі. Але ад п.п. Грабскіх і Тугуттаў і нельга ждаць нічога лепшага!

---

# Бюджэт Польшчы у Сойме.

(Бюджэт ваеннага міністэрства).

### 1. Ненармальны — мілітарыстычны бюджэт.

Ваенны бюджэт Польшчы—галоўная прычына і сымптом яе хваробы.—Дзеля таго даем больш абшырна справаздачу аб дыскусіі над ім у Сойме.

Дакладчык (эндэк) сцьвердзіў, што ваенныя выдаткі Польшчы — страшэнна цяжкія для насяленьня і забойчыя для „санацыі" скарбу... Выдаткі на войска робяць польскі бюджэт на цэлую трaціну большым за нармальны, на трaціну большым за тое, што Польшча наагул можа трaціць па свайму матэр'яльнаму стану... Сцьвердзіў і тое, што, ня гледзячы на гэта, ніводзін бюджэт не праскачыў так лёгка і аднамысна праз бюджэтную камісію, як гэты самы, якраз найцяжэйшы для насяленьня і забойчы для скарбу бюджэт ваеннага міністэрства.

Вельмі цікава, што, калі п. Тарашкевічназываў польскі бюджэт мілітарыстычным, гэта значыць: ненармальна - павялічаным на карысьць збраеньняў, але на шкоду насяленьня і на агульную небясьпеку, дык гэта — паводле слоў палякоў—быў „фальшывы данос" на Польшчу Захаду. Але, калі сам дакладчык—эндэк выразна сцьвярджае абсалютна тое самае, дык гэта ёсьць „заахвочываньне" да патрыятызму...

Але дакладчык сцьвярджае нешта яшчэ горшае. Раўнуючы польскі бюджэт з францускім, дзе выдаткі на войска — яшчэ цяжэйшыя для скарбу, ён зусім слушна кажа, што розьніца паміж абадвума аднолькава ненармальнымі бюджэтамі—францускім і польскім—у тым, што Францыя забівае сябе фінансава-эканамічна дзеля таго, каб „утрымаць (ваенную) перавагу сваю ў Эўропе", а Польшча змушана руйнаваць свае насяленьне і забіваць свае гаспадарчае жыцьцё, „каб забясьпечыць свой быт і граніцы"... Гэтая галоўная супярэчнасьць сучаснай Польшчы ўсё расьце і, наагул, ня можа не расьці, бо прадстаўляе самую істоту Польшчы. Але трэба было дакладчыку дайсьці ўжо да лягічнага канца: ясна, што на ненармальным, руйнуючым знутра край бюджэце, як на нягодным сыпкім фундамэньце, нядоўга здалее ўтрымацца ў Францыі яе „гэгемонія", у Польшчы—яе „быт і граніцы"...

### 2. Дыскусія.

Усю дыскусію над гэтым бюджэтам характэрызавала гэткая галоўная рыса: ўсе палякі казалі шмат праўды, але заўсёды зачынялі вочы перад гэтым апошнім, няпрыемным, але й няўхільным вывадам; усе-ж непалякі пачыналі проста з гэтага вываду—з канца, бачучы і кажучы ясна тое, чаго ня бачуць палякі...

Пры сьвятле вышэйсказанага — якой ironiяй зьяўляюцца „патрыятычныя" словы „хрысьціянскага абшарніка" Машыньскага аб тым, што „грош, выданы на армію, добра памешчаны"...

Украінец Назарук кажа, што польскі бюджэт больш мілітарыстычны, чым у якім-хоч іншым гаспадарстве. Бюджэт Польшчы будзе нармальным толькі тады, калі паміж палякамі і іншымі народамі, як унутры, так і вонках Польшчы, адносіны зробяцца нармальнымі.

Пэпэсавец Маліноўскі кажа, што польскія сацыялісты не баяцца ані выдаткаў на войска, ані „мілітарнага бюджэту". Войска і мілітарызм у Польшчы павінны істнаваць датуль, дакуль яны істнуюць у нашых суседзяў. „Расея выразна паказывае на Польшчу, як на край найбліжэйшага наезду"... „Польшча будзе мілітарыстычная, пакуль мілітарыстычнай будзе Расея"...

Зусім слушна ён сцьвярджае факты, але—ці вытрымае Польшча гэтыя выперадкі з Расеяй, — вось пытаньне!

„Хай жыве ваяўнічая П.П.С.", крычыць укр. Васыньчук у канцы прамовы „сацыялісты".

Пястовец Грушка кажа, што „ідэалам польскага „хлопа" зьяўляецца лямех, а не карабін".

Хадэк Бітнэр падае вельмі цікавыя лічбы, з якіх відаць, што ўтрыманьне аднаго польскага жаўнера каштуе на 50 проц. (г. зн. у паўтара раза!) больш, як францускага, хаця апошні жывіцца шмат ляпей. (Кошт утрыманьня польскага жаўнера—1.209 злотых!).

Прадстаўнік жыдоў, *Грюнбаўм*, з прычыны пануючай у войску няроўнасьці ў правох і зьдзекаў над жыдамі і іншымі меншасьцямі, прапануе скрэсьліць „спэцыяльныя крэдыты" з бюджэту ваеннага міністэрства.

Вызваленец *Косьцялковскі*, які зьяўляецца адным з самых ярых польскіх мілітарыстаў-пілсудчыкаў, даказывае, што ў Польшчы няма нават ценю якогась мілітарызму (!) Ён кажа, што на кожны кілямэтр (троха менш вярсты) сваіх граніц Польшча трымае толькі 67 жаўнераў, а Францыя—168.

### 3. Прамова ваеннага мін. ген. Сікорскага.

На абарону бюджэту ўстае сам міністар вайсковых спраў, ген. Сікорскі, які ў вялікай прамове сцьвярджае „поўную аднамыснасьць ураду і Сойму ў справе абароны народу (польскага!) і дзяржавы". Сойм ня толькі прыняў усе ўрадавыя „пазыцыі" бюджэту, але яшчэ і сам дадаў да яго значныя сумы. Для падтрыманьня краёвай прадукцыі—ваеннай і іншай—міністар абяцуе ўтварыць цесны саюз прамыслоўцаў (фабрыканта і абшарніка), дзяржаўнай улады і арміі...

Генарал Сікорскі, як адзін з бацькоў ідэі і практыкі асадніцтва, горача бароніць гэтага свайго агіднага байструка. Ён кажа, што сам ген. Фош і іншыя францускія генаралы, з якімі размаўляў ген. Сікорскі, „зразумелі" асадніцтва. Дык трэба „зразумець яго і ў Польшчы".

Усяго раздана асаднікам беларуска-ўкраінскай зямлі, як сцьвярдзіў міністар, у Валынскім ваяводзтве—52.000, у Наваградзкім—57.000, у Палескім—30.000 гэктараў.

Заявіўшы далей, як ужо вядома нашым чытачом, што беларускія і ўкраінскія сяляне ня маюць ніякага права на дворныя абшары ў сваім краі, бо на гэтых абшарах сядзяць пераважна паны-палякі (хоць яны іменна і зрабавалі некалі зямлю нашага народу!), п. міністар даводзіў, што асадніцтва „ўносіць у Край не палітычнае раздражненьне, але прагрэс і культуру"... (гучныя воплескі пераважна на лаўках Вызваленьня!..) і творыць цэнтры, навакол якіх гуртуецца мясцовае насяленьне"... (воплескі ізноў).

Вось гэтыя словы польскага міністра і гэтыя воплескі польскага Сойму беларускія сяляне, зямля якіх забрана для чужынцаў, павінны добра зразумець і запамятаць...

Далей ген. Сікорскі зьбівае закід мілітарызму Польшчы.

Можа быць мілітарызм вонкавы і ўнутраны. Ніводнага няма ў Польшчы!—кажа п. міністар. Першы выдуманы немцамі і бальшавікамі, а другі, які быццам-то скіраваны проці меншасьцяў — беларусаў і ўкраінцаў,—таксама брахня! „Бо на Крэсах польская армія бароніць нават у часе міру беларускага і ўкраінскага хлебароба ад бальшавіцкага раю, каб яны маглі спакойна пахаць зямлю"...

Да гэтага клясычнага абзацу трэба толькі дадаць: ня толькі армія, але і паліцыя! (глядзі інтэрпэляцыі Белар. і Украінск. Клюбаў і надрукаваныя ў нас сяньня рэвэляцыі „Dzien. Wileńsk.").

---

# З Сойму.

## „Языковыя" законы ў канстытуцыйнай камісіі Сойму.

Ні адзін закон так шыбка не разглядаўся ў Сойме Польскім, як гэтыя няшчасныя для меншасьцяў „языковыя законы". Гэтыя тры „законы"—творы эндэка Грабскага і К⁰—разглядаліся і абгаварываліся ў камісіі канстытуцыйнай не асобна кожны, а ўсе адразу,—згары было відаць, што ніхто з польскіх партыяў не прыдаець ім жаднага значэньня, што нечага над імі задумывацца, калі яны, апрача зьменшаньня правоў нац. меншасьцяў, нічога ім не даюць. А ўсім-жа ведама, што Вэрсальскі Трактат, Трактат Рыжскі ды нават і самая Польская Канстытуцыя гарантуе беларусам, украінцам, літоўцам, немцам і жыдам шырокія правы. Дзеля гэтага ў камісіі сьпяшаліся польскія партыі з правядзеньнем гэтых законаў усё роўна, як на пажар. Мусіць надта нацiскалі на Варшаву прадстаўнікі польскія ў Лізе Народаў, каб мець ім там хоць які небудзь закон польскі аб рэальных нібы правох для нац. меншасьцяў. І Грабскі сьпёк іх на скорую руку, і выйшлі яны такімі, што апрача крыклівых загалоўкаў нічога няма, — ну, але ўсё-ж такі могуць прыдацца і яны, каб замыліць вочы Эўропе.

4/VII у часе другога чытаньня *адразу* ўсіх гэтых трох законаў у камісіі канстытуцыйнай (старшынстваваў у камісіі эндэк Гломбінскі), беларускі дэпутат Бр. Тарашкевіч ад імя прадстаўнікоў усіх Клюбаў нац. меншасьцяў у Сойме заявіў, што яны на знак пратэсту проці зьменшаньня гэтымі законамі правоў нацыянальных меншасьцяў ня будуць прыймаць учасьця ў абгаварываньні гэтых законаў, ня будуць уносіць да іх жадных паправак і пакідаюць залю паседжаньня камісіі. „Бяз нас вы ўкладалі гэтыя законы.—бяз нас іх і праводзьце. Мы сваей рукі да іх прылажыць ня можам". У сьлед за гэтым прадстаўнікі беларусаў, украінцаў, немцаў і жыдоў выйшлі з паседжаньня.

Пазастаныя прадстаўнікі польскіх партыяў надта шыбка прынялі ўсе гэтыя тры законы ў другім чытаньні і адразу-ж, без жаднага перарыву, прыступілі да трэцяга чытаньня. Сьпяшаліся яны так для таго, каб у суботу 5/VII паставіць гэтыя скорасьпечаныя законы на парадак дня ў Сойме.

Але—раптам—прысутныя на паседжаньні камісіі прадстаўнікі двух міністэрстваў выказалі розныя погляды што да фармальнай стораны аднаго параграфу у адным з гэтых хвалёных палякамі трох законаў. Завязалася дыскусія. Што тут рабіць? А трэба-ж не затрымлівацца доўга. Пан Гломбінскі знайшоў выхад з сітуацыі. „Выдзяліць падкамісію для пагоджаньня спрэчных поглядаў". Прапазіцыя прыймаецца. Падкамісія ў адзін міг выбрана і... адбываецца далей трэцяе чытаньне. Скончана. Усе тры законы адным духам прыймаюцца ў трэцім чытаньні. А як-жа быць з тымі папраўкамі, якія можа вынесьці падкамісія? І гэта вырашаецца адным махам — „Папраўку падкамісіі лічыць прынятай у трэцім чытаньні" — робіцца такая пастанова камісіяй, добра ведаючы, што жыдзенькую полеўку правоў нац. меньшасьцяў у гэтых законах не папсуець вадзіца рашэньняў падкамісіі.

Вось як сур'ёзна і салідна, з якой павагай праводзіліся нейкія нібы выгадныя для нас праэкты законаў у канстытуцыйнай камісіі Польскага Сойму.

### Аб новых паўнамоцтвах для Ураду.

3 ліпня г. г. на супольным паседжаньні камісіі Скарбовай і Бюджэтнай пачала разглядацца справа новых паўнамоцтваў для Ураду. Для нашага народу ўжо добра ведама, што гэта значыць. Яму, як кажуць, праз бок вылазяць старыя, стасункова малыя, паўнамоцтвы, якія меў Урад дагэтуль, і якія прынясьлі нам за 6 месяцаў балей як 70 распараджэньняў самога Ўраду. У скарбовай палітыцы за гэты час мы бо ня бачылі ніякай сталасьці, ні парадку. Неразьбярыха падатковая запанавала па ўсіх скарбовых урадах і запужала ня толькі платніка, які ня ведаў і ня ведае, калі і што плаціць, але і „izby skarbowe", а нават і сам высокі Урад. Цяжар для народу стаў невынасімы, бо за Урадам паскакалі розныя „самаўрады", і падаткі сталі сыпацца ўжо ня тыднямі, а амаль ня штодзенна. А што-ж рабіў Сойм? Зусім зразумела; даўшы, дзякуючы правіцовай большасьці, паўнамоцтвы Ўраду, Сойм ня ўмешваўся ў гэтыя справы. І вось цяпер, як скончыліся старыя паўнамоцтвы, Урад зьвярнуўся да Сойму з новым законам: Урад прапануе Сойму зацьверджаньне яшчэ шырэйшых сабе правоў і поўнамоцтваў. Прадстаўнікі беларускага і ўкраінскага народу рашуча выступілі проціў наданьня Ураду гэтых поўнамоцтваў, даказываючы, што заканадаўства мусіць знаходзіцца ў руках Сойму, а Ўрад павінен толькі выконываць выдаваныя Соймам законы. На жаль, і цяпер, як гэта было і

шэсьць месяцаў таму назад, нават лявіца польская не далучылася да голасу прадстаўнікоў нашага народу. На знак пратэсту прадстаўнікі Бел. Пас. Клюбу П. Мятла і Украінскага П. Васыньчук пакінулі само паседжаньне. Значыцца, паўнамоцтвы будуць дадзены, паслы разьедуцца на лета да хаты, а Урад будзе сыпаць безканечныя распараджэньні, а народ... плаціць, плаціць і плаціць.

## Аб падатках ад спадчыны.

3 ліпня г. г. на камісіі скарбовай у 3-м чытаньні прайшоў новы закон аб зьмене некаторых распараджэньняў аб ападаткаваньні маемасьці па сьмерці бацькоў, ці родных, а таксама і аб маемасьці, якая застаецца па „тастаманту“. Па новаму закону ўводзіцца нейкае якбы палягчэньне: браць будуць падатак толькі ад 10.000 зл. вартасьці гаспадаркі (czysta wartość otrzymanego majątku), калі маемасьць перайходзіць на аднаго з родных дзяцей і 3.000 зл., калі гэта гаспадарка перайходзіць у рукі далейшых родных. Усе-ж гаспадаркі, вартасьць якіх даходзіць толькі да 10.000 зл. у першым выпадку і 3.000 зл. у другім, зусім звальняюцца ад спадковага падатку. Пад агульную суму пры ацэнцы маемасьці ня будзе падводзіцца ўсё тое, што адносіцца да хатняй гаспадаркі, і аддзельныя прылады кухні і пакояў, пасьцель, адзежа, бялізна, калі цэннасьць іх не перавышае 2.500 зл. Новы спосаб ацэнкі і зьбіраньня спадковых падаткаў будзе правадзіцца з тэй маемасьці, якая пераходзіць у рукі новых гаспадароў з 1 ліпня 1924 г.

## Як-жа з тытуном сёлета?

Пасьля нядаўняга правалу ў Сойме прапазіцыі аб дазволе сялянам сеяць сёлета, як і летась, для свайго ўласнага ўжытку тытун, некатарыя партыі, у тым ліку і Беларускі Клюб, унясьлі другі ўнёсак—аб дазволе сабраць хоць-бы ўжо засеяны тытун. Але тымі-ж самымі галасамі, як і раней, правіцы і P.P.S., 2 ліпня г. г. на Камісіі скарбовай унёсак гэты праваліўся. Такім чынам сёлета ні пад якім відам ня можна ня толькі сеяць тытун, а нават і сабраць пасеяны. Цётка Італія, пазычыўшы 200.000 лір. пад акцыз за тытун, стаіць над нашым каркам і застаўляець нават польскіх так званых сацыялістаў галасаваць процiў дазволу хоць сабраць тое, што ўжо расьце і на што палажана вясковымі гаспадарамі шмат працы.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да п. п. Міністраў Вайсковых Спраў, Ўнутраных Спраў і Зямельных Рэформаў—у справе **біцьця паручыкам польскіх войск сялян** Базыля, Аляксандра і Яна Ігнатчыкаў з в. Ліпкі, Ланьскае гміны, Нясьвіскага пав., і недапушчаньня сялян памянёнае вёскі карыстацца іх уласнай зямлёй.

Сяляне вёскі Ліпкі, Ланьскае гміны, Нясьвіскага пав., ужо даўжэйшы час карысталіся на сэрвітутных правох пашай у фальв. Мінкевічы.

У 1921 годзе 11 марца ўласьнік фальв. Мінкевічы, п. Ярмоліньскі, вырубіўшы лес на сэрвітутным пасьвішчы, прадаў сялянам вёскі Ліпкі частку гэтага пасьвішча пад назовам „Пасека“. Атрымаўшы грошы за праданую зямлю, Ярмоліньскі перадаў у ўладаньне сялян вёскі Ліпкі „Пасеку“ і абязаўся выпаўніць адпаведныя фармальнасьці, вынікаючыя з прадажы зямлі. Цяпер, праўдападобна маючы на ўвеце дастаць больш грошы за праданую зямлю, Ярмоліньскі хацеў-бы ўняважніць сваю папярэднюю прадажу і дзеля гэтага пачынае забараняць гаспадаром пасьвіць скаціну на прададзенай ім зямлі.

З гэтай вось мэтай ён 13 чэрвеня г. г. запрасіў у вёску Ліпкі уланаў, лікам 11 асоб з паручыкам на чале, якія заарыштавалі Алясандра Ігнатчыка, Яна Ігнатчыка ды сына апошняга Базыля, 12 гадоў. Заарыштаваўшы іх паручык польскіх войск страшэнна пабіў хлопца Базыля і Яна Ігкатчыка, а пасьля арыштаваных аддаў да дыспазыцыі каманды дзяржаўнае паліцыі ў Нясьвіжы.

Прадзяржаўшы пад арыштам тры дні, паліцыя звольніла арыштаваных.

Дзеля вышэйшага, а такжа пазываючыся на сьведкаў: Вольгу Сазановіч і Мікалая Ігнатчыка, жыхараў вёскі Ліпкі, ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў паноў Міністраў:

1) Ці маняцца ўраз-жа пакараць паручыка польскіх войск у Нясьвіжы, які паважыўся арыштаваць сялян вёскі Ліпкі і біць іх? 2) Ці маняцца пакараць паліцыю за самавольнае пазбаўленьне свабоды ў працягу трох дзён памянёных сялян? 3) Ці маняцца абараніць права сялян вёскі Ліпкі карыстацца іх пасьвішчам?

Варшава, 1 ліпня 1924 г.

## ІНТЕРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Пасольскага Клюбу да п. Міністра Ўнутраных Спраў—у справе **укрываньня паліцыяй прасгупнікаў** у Бытэні, Слонімскага пав.

Селянін вёскі Міронімо, Бытэньскае гміны, Слонімскага пав., Лявон Сяледчык у марцы месяцы 1924 году, праходзяцы цераз лес абшарніка гр. Патоцкага, сустрэў гаевага, які, нічога ня кажучы, выстраліў у яго са стрэльбы і папаў Сяледчыку ў шыю пад левым вухам. Куля дагэтуль ня была вынята, бо павятовая бальніца ў Слоніме, куды зьвярнуўся ранены, не магла зрабіць патрэбнае апэрацыі. Лячыўся Сяледчык у бальніцы і па-за бальніцай па ўласны кошт.

Справа гэта перайшла да камэнданта паліцыі ў Бытэні, але дагэтуль ня было ніякіх вынікаў сьледзтва.

Селянін Сяледчык зьвярнуўся з скаргай да сьледчага судзьдзі II р. Слонімскага пав., які пакіраваў яго да галоўнае каманды дзяржаўнае паліцыі ў Слоніме, дзе яго толькі злаялі, ўжываючы няпрыстойных слоў, сказалі: „вас бы ўсіх трэба было пастраляць!“ і выкінулі за дзьверы.

Вышэйшыя факты гавораць аб адносінах польскае адміністрацыі да беларускага насяленьня, аб лёгкаважаньні ею свайго абавязку запэўніць сялянству публічную бясьпечнасьць і аб укрываньні праступнікаў.

Дзеля вышэйшага, пазываючыся на сьведкаў: Антона Качуру і Яна Лойко, жыхараў вёскі Міроніма, якія былі прысутны пры страляньні гаёвага ў Сяледчыка, інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра:

1) Ці ведама яму аб вышэйшым? 2) Ці маніцца пацягнуць паліцыю да адказу за укрываньне праступнікаў, кінуўшы сьледзтва, ды за лаянку Сяледчыка ў урадзе галоўнае каманды паліцыі ў Слоніме? 3) Ці маніцца пакіраваць у суд справу параненьня Сяледчыка?

Варшава, 11 чэрвеня 1924 г.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

пасла Аўсяніка і тав. з Беларускага Клюбу да пана Міністра Вайсковых Спраў—у справе незаконнае рэквізыцыі кватэры ў Аляксандра Дабравольскага аркестрам 86-га п. п. ў м. Маладэчне, Вялейскага пав.

У жыхара м. Маладэчны, Аляксандра Дабравольскага, год таму назад Дав. 86 п. п. забрала прымусам кватэру для аркестру гэтага-ж палка.

За занятую квартэру 86 п. п. нічога Аляксандру Дабравольскаму ня плоце, хаця Дабравольскі, маючы вялікую сям'ю, ня мае ніякіх спосабаў да жыцьця.

За год жыцьця аркестру 86 п. п. кватэра Дабравольскага аказалася зруйнаванай. На колькіразовыя просьбы пакрыўджанага Дабравольскага, пасыланыя Давудзтву 86 палка пяхоты, сказанае Давудзтва ў мінулым годзе (№ 6271) адказала: „На вышэйшае паданьне паведамляю, што памяшчэньне будзе звольнена пасьля пабудаваньня казармаў“.

Прыймаючы пад увагу, што Давудзтва 86 п. п. надужывае сваіх правоў, крыўдзючы грам. Дабравольскага і яго сям'ю, інтэрпэлянты пытаюцца ў пана Міністра:

1) Ці вядома яму аб вышэйшым? і 2) Што п. Міністар маніцца ўчыніць дзеля направы крыўды п. Дабравольскага?

Варшава, 5 чэрвеня 1924 г.

# Баламучаньне заграніцы польскімі „сацыялістамі“.

У партыі П.П.С. выдатную ролю іграе пасол Казімір Чапіньскі.

Гэта—былы эсдэк, да таго—расейскі эсдэк, каторы ў часе сваей навукі ў школах стыдаўся гаварыць папольску і інакш, як парасейску, з таварышамі не размаўляў. Затое цяпер ён стараецца „нагнаць“ тое, чаго для польскасьці гэты „радавіты паляк“... з Менску не пасьпеў раней зрабіць.

Пан Чапіньскі езьдзіў у Швэцыю на сацыялістычны зьезд і там „абеліваў“ Польшчу перад „таварышамі“ заграпічнікамі. Паміж іншым, меў цікавую гутарку з бываўшым швэдзкім міністрам Брантінгам.

Брантінг зацікавіўся палажэньнем „меншасьцяў“ у Польшчы. Вось, як п. Чапіньскі ў „Роботніку“ сам аб гэтым апавядае:

„Пасьля Брантінг сам пераходзе да польскіх спраў, распытываючыся перадусім аб віленскай справе, якая, відаць, яму вельмі на сэрцы ляжыць. Тлумачу яму з статыстычнай табліцай у руках, што літвіны ў Вільні складаюць ледзьве 25%, а па ўсей Віленшчыне прадстаўляюць меншасьць, раўнуючы да палякоў і беларусаў“.

З прычыны гэтых слоў п. Чапіньскага слушна заўважае „Trybuna Robotnicza“:

„Дзівуйцеся спрытнасьці гэтага пана, які працуе ў сацыялізьме. Ен ня кажа аб тым, што гэта край Беларускі, дзе беларусы адны прадстаўляюць вялізарную большасьць, а палякі — меншасьць, але мяшае беларусаў з палякамі, як быццам беларусы аж гарацъ, ірвучыся да ўраду Грабскіх ці Чапіньскіх. Але Брантінг—таксама спрытны і ведае, што буржуазна-сацыял-угадовая статыстыка—ўсё роўна, як прастытутка: можна з гэтага, можна з таго боку. Ведае гэта стары пройда Брантінг, бо пытаецца:

— „Добра, але хто-ж гэтую статыстыку ўкладаў?“

---

**Кожны селянін, калі прыедзе у Вільню, павінен зайсьціся ў беларускую кнігарню на вуліцы Завальнай пад № 7. Там ён можа набыць па сходнай цане шмат цікавых, карысных і патрэбных кніг, як для сябе, так і для суседзяў сваіх.**

---

# Палітычныя падзеі.

## Калі ня міністра, дык хаця віцэ-міністра!

Пры галасаваньні бюджэту мін. прасьветы і рэлігіяў сам міністар, які мае скуру грубую і ўсе „камплімэнты“ паслоў пускаў міма вуха, уцалеў. Але з яго калегай — віцэ-міністрам, які, як кажуць, зьяўляецца „душой“ яго палітыкі, дык не пацэрамоніліся; папросту „скрэсьлілі“ яму пэнсыю з бюджэту. Дык і прышлося падацца ў адстаўку. А п. міністар — што на гэта? — А нічога: сядзіць!

## Сэнсацыйны скандал на Кракаўскім працэсе.

На Кракаўскім працэсе аб крывавай бітве паміж работнікамі і войскам ды паліцыяй у часе агульнай забастоўкі у пачатку лістападу м. г. агульнае напружаньне з прычыны небезстароннасьці старшыні суда выбухнула нарэшце нябывалым скандалам. Абаронца пасол Лібэрман, іранічна перарваны старшынёй у часе дапросу сьведкі абвінавачаньня, крыкнуў да старшыні: „Прашу не перапыняць маіх пытаньняў гэткімі іранічнымі дасьціпамі!“. А калі старшыня зараз-жа пазбавіў яго слова, дык яшчэ рэзчэй адказаў: Гэта-ж—стыд, што старшыня тут трактуе нас, як вучняў („жакаў“) у школе!.. — Стыдна п. старшыні!..“. А калі старшыня заявіў, што суд выходзе на нараду, дык абар. Лібэрман яшчэ раз крыкнуў: „Тут ня школа!..— Стыдна, стыдна!..“

З публікі сталі крычаць — „брава...“

У выніку суд аштрафаваў Лібэрмана на 200 злотых, а абвінавачанага пасла Клемэнсевіча (выданага Соймам), які тут-жа прызнаўся, што гэта ён крычаў „брава“, укараў арыштам на 8 дзён...

Пракурор пасьля ўсяго патрэбаваў одпісу з пратаколу аб скандале, каб патрэбаваць ад Сойму выдачы суду пасла Лібэрмана.

## Два ўкраінскія юбілеі.

Украінцы нядаўна сьвяткавалі юбілеі двух сваіх найвялікшых дзеячоў.

20 чэрвеня мінуў 30 год са дня сьмерці першага ідэалёга ўкраінскай радыкальнай партыі, Міхайла Драгоманіва, які меў вялікі ўплыў ня толькі на ўкраінскую, расейскую і беларускую сацыяльна-палітычную думку (ён выдаў у Жаневе першую беларускую рэвалюц. брашуру), але павінен лічыцца адным з найвыдатнейшых правадыроў эўрапэйскага радыкалізму.

Другі юбілей,—больш радасны, бо сьвяткаваў 65-лецьце ўрадзінаў і 40-лецьце грамадзкай дзяльнасьці вядомага галіцкага дзеяча Костя Левіцкага, вучонага і ідэалёга ўкраінскага нацыянальнага дэмакратызму, знамянітага арганізатара народнай прасьветы, каапэрацыі, банкаў, майстроўняў, ды прэм'ера першага ўраду Заходня-Украінскай Народнай Рэспублікі.

## Ня так хутка...

Нямецкія парляманцкія кругі думаюць, што да рэалізацыі пляну экспэртаў — яшчэ ня блізка. Парлямант мае сабрацца толькі 28 ліпня, і правясьці праз яго адносны закон можна будзе не раней, як у палове жніўня...

## Адказ саюзьнікаў на нямецкую ноту.

Новая нота саюзьнікаў на нямецкі адказ у справе ваеннага кантролю кажа, што яны прымаюць да ведама згоду нямецкага ўраду на аднаўленьне кантролю, адкідаюць толькі жаданы Нямеччынай тэрмін сканчэньня ўсей апэрацыі да 1 сьнежня.

## Новая канфэрэнцыя Малай Антанты.

11-га ліпня ў Празе адчыніцца новая канфэрэнцыя Малай Антанты (саюзу Чэхаславакіі, Югаславіі і Румыніі). Галоўныя справы—адносіны да СССР., праграма супольнай працы на Агульным Сабраньні Лігі Народаў у верасьні і справы, зьвязаныя з працай канфэрэнцыі ў Лёндоне.

## Ці ўжо крах англа-расейскай канфэрэнцыі?

Пасьля апошняй нарады старшыні радавай дэлегацыі Ракоўскага з Камітэтам уласьнікаў прадваенных расейскіх цэнных папераў першы заявіў, што, відаць, другая старана не жадае урэгуляваньня гэтай справы. У гэтым усім найцікаўней тое, што „другой стараной“ у канфэрэнцыі зьяўляецца не дэлегацыя „сацыялістычнага ўраду“ Мак-Дональда, але Камітэт англійскіх фінансістаў.

## Акурат як у „сацыялістычнай Англіі“.

У Парыжу зноў адбылося паседжаньне крэдытараў царскай Расеі, — вялікіх банкіраў Францыі і Бэльгіі. Рэзалюцыя сабраньня вельмі хітра кажа, што справа праўнага прызнаньня СССР, гэта — рэч палітычная, і дзеля таго да яго не належыць... Але францускія і бэльгійскія капіталісты заяўляюць, што ніякога падтрыманьня радавы ўрад (чытай: так сама і ўрад францускі) ад іх чакаць ня можа, пакуль не заплаціць усіх царскіх даўгоў і адшкадаваньняў за страты францускіх і бэльгійскіх грамадзян у часе рэвалюцыі.

## Обыск у памяшчэньні камуністычнаў фракцыі Нямецкага Парляманту.

У памяшчэньні камуністычнага клюбу Рэйхстагу судовыя і паліцэйскія ўлады зрабілі обыск, які трываў 2 гадзіны. Забрана абшырная перапіска з правінцы-

